# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 38 (656) ГОД XIII 22 ВЕРАСНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

4 верасня г.г. адбыўся прэзідыум Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Прысвечаны ён быў абмеркаванню плана працы ГП БГКТ да канца гэтага года і балансу за першае паўгоддзе.

Што будзе рабіць ГП БГКТ у гэтым годзе? Перш за ўсё план працы прадбачвае шырокае ўключэнне нашага таварыства ў перадз'ездавую кампанію. З гэтай мэтай актыў таварыства выедзе ў гурткі БГКТ. Тэзісам на V з'езд ПАРП і пяцідзесяцігоддзю КПП — КПЗБ будуць прысвечаны 120 гутарак, якія адбудуцца перад мастацкімі мерапрыемствамі таварыства. Праблемам перадз'ездаўскай кампаніі будуць таксама прысвечаны нарады праўлення аддзелаў.

Шырока будуць адзначацца і знамянальныя гадавіны: дваццацігоддзе Войска Польскага і дваццатая гадавіна стварэння Польскай аб'яднанай рабочай партыі. З гэтай мэтай будуць наладжаны акадэміі і вечарыны.

V з'езду ПАРП і гэтым гадавінам шмат месца адведзена таксама і ў радыё-гутарках (80 гутарак).

Набліжаецца вялікая дата ў гісторыі беларускага народа — 50 год з дня стварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Гэтай даце будзе прысвечана спецыяльнае пленарнае пасяджэнне ГП БГКТ. У гэтым годзе плануецца наладзіць 80 фотавыставак з жыцця БССР і прадэманстраваць 40 савецкіх кінакарцін.

З іншых мерапрыемстваў ГП БГКТ плануе да канца года наладзіць 40 літаратурных сустрэч, даць 8 харавых і 110 эстрадных канцэртаў, арганізаваць 20 асветных курсаў, правесці літаратурны семінар, паклікаць грамадскі камітэт пабудовы беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы і правесці цэнтральны агляд калектываў мастацкай самадзейнасці.

Да канца года будуць аб'яўлены таксама рэпертуарны і рэцытатарскі (для школ) конкурсы.

З выдавецкіх спраў плануецца: выдаць і развесці «Беларускі каляндар на 1969 год», развесці зборнік вершаў Алеся Барскага, падрыхтаваць да друку зборнік навуковых прац і літаратурныя зборнікі Янкі Чыквіна і Сакрата Яновіча.

### СУСТРЭЧА З ЗАСЛУЖАНЫМ ПЕДАГОГАМ

Багаты педагагічны шлях прайшоў Ян Канапелька. Між іншым шмат гадоў быў ён візітатарам беларускіх школ. Нядаўна візітатар Беластоцкай кураторыі Ян Канапелька адыйшоў на пенсію. З гэтай нагоды 7 верасня г.г. у ГП БГКТ адбылася сустрэча з заслужаным педагогам. З прывітальным словам выступіў сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк. Падкрэсліў ён вялікі ўклад працы Яна Канапелькі ў развіццё беларускага школьніцтва на Беласточчыне, сардэчна падзякаваў яму за дагэтуляшнюю плённую дзейнасць і запрасіў да далейшага супрацоўніцтва ў вырашанні не лёгкіх праблем нашай асветы.

Ян Канапелька расказаў аб сваёй працы і абяцаў надалей памагаць сваім вопытам ГП БГКТ.

Паважаны госць атрымаў ад ГП БГКТ падарак — разьбу белавежскага зубра.

Шырэй аб візітатару напішам асобна. (гв)



Белавежа. Стары паляўнічы дом. Фота: Г. Рагазінскі.

## МІЖ З'ЕЗДАМІ • ДРОБКА АСВЕТНЫХ СПРАЎ

Сёння хочам сказаць некалькі слоў аб асвеце, а дакладней — аб школьніцтве. Зразумела, што зрабіць падсумаванне пры дапамозе лікаў і паказчыкаў у галіне асветы на многа цяжэйшае, чым, напрыклад, у будаўніцтве. Тым не менш пастараемся паказаць асвету Бельшчыны ў 1964—1968 гадах.

Тэзісы на V з'езд прысвячаюць заданням у галіне развіцця навуковых доследаў, асветы і культуры спецыяльны раздзел. І гэта правільна, таму што сучаснае жыццё не магло б развівацца без навукі, што асвета і культура з'яўляецца тым, што змяняе або фармуе «душу» чалавека, яго свядомасць. Каб магчыма найлепш у будучым выкарыстаць гэтыя важныя галіны нашага жыцця, неабходна перадумаць і прадыскутаваць іх заданні.

Сетка пачатковых школ у Бельскім павеце амаль стабільная. Ітак, у 1964/65 навучальным годзе мелася тут 108 школ, у тым ліку 74 сямікласныя і 34 чатырохкласныя. Здаецца, што дыскутаваць над гэтай тэмай нечага. Аднак ёсць пэўныя лікі, якія непакояць. Менавіта ў мінулым школьным годзе 137 вучняў не рэалізавала ў павеце школьнага абавязку. У параўнанні да 1965/66 год лік гэты павялічыўся на 45 вучняў, прычым колькасць вучняў за адпаведны перыяд павялічылася толькі з 11 597 на 13 016. Справа тым больш істотная і патрабуючая хуткай развязкі, што ў тэзісах гаворыцца: Палітыка партыі ў галіне разбудовы асветы... будзе накіравана на: — забеспячэнне ва ўсёй краіне далейшага навучання пасля 8-гадовай пачатковай школы для найменш 90% абсальвентаў у 1975 г.». Зразумела, што да 1975 года шмат часу, але вядома, што гэткіх спраў не вырашаецца за адзін год. Дзеячы, настаўнікі і ўлады Бельшчыны павінны гэта бачыць у перадз'ездаўскай дыскусіі і выпрацаваць рэальныя прапановы да палепшання сітуацыі.

Не дастаткова яснай і задавальняючай астаецца справа школ сельгаспадрыхтоўкі (СПР). У 1964/65 годзе было іх у павеце 11 з 420 вучнямі, у 1967/68 асталося толькі 7 і толькі з 144 вучнямі. А ў тэзісах гаворыцца, што з мэтай лепшага заспакаення кадравых патрэб гаспадаркі і культуры народовай трэба: «запэўніць хутчэйшае развіццё сельскагаспадарчага школьніцтва праз паляпшэнне працы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі...» Цяжка

(Працяг на стар. 4)




Ад веку дадзена нам мова
Не за мядзяк, не на
павер.
І адкрывай яе нанова,
Як адкрываў яе Гамер.

Ты — валадар галосных,
зычных,
Што даў табе далёкі род.
Сярод спляценняў слоў
музычных
Жыве музычны наш народ.

О, час далёкі пышных
баляў!
О, гусляры былых вякоў!
Я чую родныя цымбалы,
Іх гукі льюцца з-пад акоў.

Гуслярскі лёс князі рашылі,
Ды вось наказ жахлівых
дзён —
Ніводнай ноткі не сфальшывіць
І зберагчы агонь і звон.

Тых гукаў вецер не развеяў,
І я былое не кляну,
Калі паэт надзейна вельмі
Кране паэзіі струну.

**Яўгенія Янішчыц**

## ЛЮДЗІ і ЧЫНЫ

# ТУРБОТЫ і бестурботнасць

Турбот у грамадскай радзе многа. Вясковыя ўлады клапоцяцца перш за ўсё аб гаспадарчым развіцці сваіх грамад. Гаспадарчае развіццё — гэта механізацыя. А механізацыя немагчыма без добрых, цвёрдых дарог. Таму галоўным намаганнем грамадскага і партыйнага актыву Грамадскай рады нарадовай у Палічнай з'яўляецца мабілізацыя насельніцтва да працы грамадскім чынам пры пабудове дарог у гэтай адсталай і адлеглай ад трактаў ваколіцы.

Насельніцтва грамады адклікаецца актыўнай працай на заклік свайго актыву. Асабліва цяпер, калі ўся краіна перажывае прыток грамадскай ініцыятывы выкліканай падрыхтоўкай да V з'езда нашай партыі. Пачалі тады і ў грамадзе Палічна сяляне паасобных вёсак прымаць прадукцыйныя абавязацельствы ў гонар V з'езда падкрэсліваючы такім чынам неразрыўную сувязь, якая спалучае ўвесь народ, у тым ліку і нашыя невялікія вёсачкі з партыяй і яе праграмай.

Працы грамадскім чынам сяляне найчасцей выконваюць у нядзелю, каб не займаць сабе часу прысвечанага на пільныя палявыя працы. Прысвечванне нядзельнага адпачынку на грамадска карысныя працы тым больш наяўна падкрэслівае ахвярнасць сялян. Так, напрыклад, у нядзелю 25 жніўня сяляне паасобных вёсак грамады Палічна прынялі масавы ўдзел у пабудове дарогі Старына — Вайноўка выконваючы працы на агульную суму 80 тысяч злотых. Дарога будзе мела вялікае значэнне перш за ўсё для вёскі Старына — у будучыні спалучыць яна гэтую вёску з Гайнаўкай і дасць магчымасць пусціць тут ПКС.

Нельга не адзначыць вялікай ахвярнасці многіх сялян у працах для агульнавясковай карысці. Пачатак працы вызначаны быў на восьмую гадзіну раніцы. Не гледзячы на гэта ўжо а пятай гадзіне раніцы селянін калёніі Бабінка Міхал Юзвюк працаваў ужо на дарозе. Пакуль зыйшоўся сюды народ да працы, выкапаў ён ужо 5 метраў глыбокага рова.

Варта таксама некалькі слоў сказаць аб жыхарах вёскі Белая Страж адлеглай у 7 кіламетрах ад будаванай грамадскім чынам дарогі. Жыхары Белай Стражы ніколі гэтай дарогай не ез-

(Працяг на стар. 4)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### СВОБАДА НА ПЛЕНУМЕ КПЧ

Выступаючы на апошнім пленуме КЦ КПЧ прэзідэнт Свобада, між іншым, сказаў: «Абавязацельствы, якія мы прынялі ў Маскве, наказваюць нам прымяненне пэўных спецыяльных і непапулярных крокаў, але занадта вялікім рызыкам было б, калі б мы спрабавалі ад гэтага адхіліцца».

### ПАЛІТБЮРО ФКП...

...у сваёй аб'яве ў справе маскоўскага дагавору пасля сцверджання, што ад самага пачатку выказала сваё неадабрэнне ўступленню саюзных войск, заявіла, што мае надзею, што дагавор можа і павінен адкрыць дарогу да нармальнай сітуацыі ў Чэхаславакіі і ў сацыялістычным адзінстве.

### ГУСАК АБ ДЗВЮХ ТЭНДЭНЦЫЯХ

І сакратар ЦК КП Славакіі Г. Гусак, выступаючы на пленуме ЦК заявіў, што ва ўлонні КПЧ існуе дзве экстрэмісцкія (крайнія) тэндэнцыі. З аднаго боку гэта тыя, хто хоча выкарыстаць уступленне саюзных войск для паваропу новатнізму, з другога боку прыхільнікі тэндэнцыі, якая была ўжо відавочнай перад 21 жніўнем, тыя, хто сёння асуджае маскоўскі дагавор.

### ПЕРАКОНВАЛІСЯ НАГЛЯДНА

Савецкае міністэрства замежных спраў запрасіла некаторых заходніх журналістаў, якія знаходзяцца ў Маскве, да наведання правінцыі ў Малдавіі, якая знаходзіцца непадалёк савецка-румынскай граніцы, дзе, паводле чутак буржуазнай прэсы, нядаўна канцэнтраваліся савецкія войскі.

### 3 ГАДЫ РЭФОРМЫ

У верасні г.г. мінае тры гады ад пачатку ўвядзення ў СССР гаспадарчай рэформы. Зараз новая сістэма планавання і эканамічных штуршкоў абавязвае ў больш 20 тыс. прадпрыемстваў, якія даюць 60 працэнтаў агульнай прамысловай прадукцыі. Праўдападобна да канца гэтага года ўсе апошнія прадпрыемствы пяройдуць на новую сістэму.

### В'ЕТНАМСКАЯ ВАЙНА

Заходнія агенцтвы перадаюць, што агрэсія ў В'етнаме каштавала Злучаныя Штаты 200 тыс. забітых, раненых і загінуўшых (больш, чым выносілі страты ў карэанскай вайне). Нацыянальны фронт Вызвалення Паўднёвага В'етнама апублікаваў з нагоды гадавіны жнівеньскай рэвалюцыі і нацыянальнага свята ДРВ заклік, у якім м. інш. сцвярджае, што в'етнамскае насельніцтва гатовае пераадолець усе цяжкасці і панесці ўсялякія ахвяры для дасягнення астатковай перамогі. Паўднёвы В'етнам — таворыцца ў заклiку, мусіць быць краінай непадлеглай, дэмакратычнай, якая імкнецца да мірнага аб'яднання ўсяго народа. КЦ ФНВ звярнуўся да ўсіх урадаў, масавых арганізацый і ўсіх прагрэсіўных сіл ва ўсім свеце, каб удзялялі яшчэ большай падтрымкі і дапамогі в'етнамскаму народу ў яго слушнай барацьбе за вызваленне. У той жа час ЗША павялічылі колькасць транспартных самалётаў у японскай базе, якія будуць выкарыстаны для патрэб вайны ў В'етнаме. (АК)

## БССР

### САКРАТАРОЎ

У Баранавічах адбыўся абласны семінар сакратароў райкомаў і гаркомаў КПБ, а таксама загадчыкаў аддзелаў Брэсцкага абласнога камітэта КП Беларусі. Семінар быў прысвечаны пытанням удасканалення стылю, форм і метадаў партыйнага кіраўніцтва камсамолам, сельскай гаспадаркай і прамысловасцю. Звернута ўвату на паляпшэнне масавай палітычнай работы сярод насельніцтва.

З дакладамі выступілі першы сакратар Брэсцкага абкома партыі **У. Мікуліч,** сакратары абкома **Д. Туравец, Я. Чайка і С. Шабашоў.**

### БАЛГАРЫЮ

Моцныя эканамічныя сувязі звязваюць Балгарыю з індустрыяльнай Віцебшчынай. Каля 10 мадэлей плоскашліфавальных станкоў пастаўляюць у Балгарыю станкабудаўнікі Віцебска і Оршы.

Аршанскі завод **«Чырвоны барацьбіт»** адгрузіў заводу вымяральных інструментаў балгарскага горада Благоеўграда станок асабліва высокай дакладнасці мадэлі 3707.

### СЛЯДЫ

Сляды старажытнага Барысава знойдзены археалагічнай экспедыцыяй Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларускай ССР. Знойдзена месца, дзе горад пачаў сваё існаванне — яно ў пяці кіламетрах ад вядомага жыхарам замчышча. Тут знойдзены рэшткі паселішча XII стагоддзя, якое, як мяркуюць, загінула падчас вялікага пажару.

Узнікненне горада адносіцца да пачатку XII стагоддзя, пасля перамогі полацкага князя Барыса Усяслававіча над ятвягамі. Імем князя названа паселішча, вядомае цяпер як горад Барысаў.

### БАРЫСЕВІЧ

**Ф. Барысевіч,** кіраўнічы дзеяч Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, паведамляе ў артыкуле **«Помнікі — гісторыя народа»,** змешчаным на старонках цэнтральнай **«Звязды»,** што на тэрыторыі Беларусі налічваецца чатыры тысячы гарадзішчаў, курганоў, могільнікаў. Нядаўна створанае Таварыства стала папулярнай арганізацыяй; утворана дагэтуль каля тысячы гурткоў, да якіх належыць каля 100 тысяч асоб.

### ГАЛАВАЧА

Бабруйскі карэспандэнт **«Звязды»** паведамляе: «Імя **Платона Галавача** дарагое не толькі землякам пісьменніка з вёскі **Гарбацэвічы,** што на Бабруйшчыне. Яно дарагое ўсім, хто любіць родную Беларусь, хто бязмежна цэніць яе духоўнае багацце (...) Нашчадкі захоўваюць памяць аб пісьменніку. Сведчанне гэтаму — адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў Гарбацэвіцкай сярэдняй школе. На ёй залатымі літарамі напісана:

**«У гэтай школе ў 1911—1912 гадах вучыўся беларускі пісьменнік Платон Галавач».**

З прамовай на ўрачыстасці выступіў, м. ін., вядомы пісьменнік **Янка Скрыган,** сябры — **М. Сідаровіч, Л. Станішэўская.** (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### НА ЖЭРАНЮ

У мінулую суботу 14 верасня адбылася справаздаўча-выбарчая канферэнцыя Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Прадпрыемстве аўтамашын на Жэраню. У канферэнцыі прыняў удзел тав. Уладзіслаў Гамулка, які з'яўляецца членам партыйнай арганізацыі гэтага прадпрыемства. Выступаючы з прамоваю Уладзіслаў Гамулка даў станоўчую ацэнку працы партыйнай арганізацыі прадпрыемства. Далей І сакратар КЦ партыі перааналізаваў асноўныя праблемы крытыкі, дэмакратычнага цэнтралізму і кіраўнічай ролі партыі. Сцвердзіў ён, што найважнейшым палітычным заданнем партыі з'яўляецца зараз паслядоўная барацьба з сіламі рэакцыі. Указаў на небяспеку з боку ідэалагічнай дыверсіі, якую праводзяць варожыя імперыялістычныя цэнтры. Шмат увагі Уладзіслаў Гамулка прысвяціў ідэалагічнай дзейнасці ў радах партыі, падкрэсліваючы, што ідэалагічная праца з'яўляецца найслабейшым звяном у датагачаснай дзейнасці ўсіх установ і арганізацый партыі. З асаблівым націскам прамоўца ўказаў на неабходнасць прынцыпіяльнай барацьбы з рэвізіянізмам, які астаецца галоўнай ідэалагічнай небяспекай для партыі.

### У ПРАДПРЫЕМСТВЕ ІМЯ НАВОТКІ

14 верасня прэм'ер Юзэф Цыранкевіч прыняў удзел у перадз'ездаўскай канферэнцыі партарганізацыі механічнага прадпрыемства імя Марцэля Навоткі. Выступаючы з прамовай тав. Юзэф Цыранкевіч падкрэсліў актыўны ўдзел калектыву гэтага прадпрыемства ў дыскусіі над перадз'ездаўскімі тэзісамі. Прамоўца станоўча ацаніў палітычную працу партыйнай арганізацыі прадпрыемства, сцвярджаючы, што найлепшым для гэтага доказам былі прынцыпіяльныя адносіны калектыву прадпрыемства падчас сакавіцкіх падзей. Тав. Юзэф Цыранкевіч падкрэсліў таксама вялікае значэнне, якое мае ўстрыманне контррэвалюцыйных сіл у Чэхаславакіі для бяспекі Польшчы і іншых сацыялістычных краін, а таксама для незалежнасці і бяспекі самой Чэхаславакіі. Прэм'ер указаў перш за ўсё на актывізацыю рэваншысцкіх сіл у Заходняй Германіі.

### VII ПЛЕНУМ

11 верасня адбылося VII пленарнае пасяджэнне Цэнтральнай рады прафсаюзаў. З прамовою выступіў старшыня Цэнтральнай рады Ігнацы Лёга-Савінскі. Прамоўца ўказаў на вялікае значэнне перадз'ездаўскай дыскусіі для паляпшэння метадаў кіравання нашай гаспадаркай і для пашырэння ўдзелу рабочага класа ў кіраванні прадпрыемствамі. Далей І. Лёга-Савінскі перааналізаваў вялікі прагрэс, які зрабіла ўся наша краіна ва ўсіх галінах жыцця на працягу ад апошняга з'езда партыі, падкрэсліваючы з асаблівым націскам павышэнне жыццёвага ўзроўню працоўных мас. Наша партыя і рабочы клас, — сцвердзіў прамоўца, — адыгралі авангардную ролю ў датагачасных дасягненнях нашага народа, у рашучай барацьбе з рэакцыяй і рэвізіянізмам, як галоўнымі ўнутранымі ворагамі сацыялізма. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ПЕРШАЯ ПАВЯТОВАЯ...

...партыйная даз'ездаўская канферэнцыя адбылася 14 верасня г.г. у Галдапі. 150 дэлегатаў, якія ўдзельнічалі ў канферэнцыі ад імя звыш паўтаратысячнай партыйнай арганізацыі Галдапскага павета, правялі змястоўную дыскусію аб гаспадарчых і ідэйных справах свайго павета ў святле тэзісаў на V з'езд партыі і выбралі дэлегатаў на Ваяводскую даз'ездаўскую канферэнцыю. Сярод выбраных дэлегатаў знайшоўся таксама член ЦК ПАРП, І сакратар Ваяводскага камітэта ў Беластоку, пасол сейма Аркадзь Лашэвіч.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

«Газета Беластоцкая», орган Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку, ад 16 верасня г.г. цэлую старонку прысвяціла Гайнаўскаму павету. Гэтая даз'ездаўская візітная картачка Гайнаўшчыны дае скандэнсаваны вобраз яе гаспадаркі і іншых яе спраў. Побач інтэрв'ю, якое даў журналістам газеты І сакратар Павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы Міхал Нядзведзь, знаходзім тут інфармацыі аб лесапільным і хімічным камбінатах, аб доме культуры «Ляснік» і аб арганізацыйным развіцці партыйнай арганізацыі Гайнаўскага павета. Варта адзначыць — услед за сакратаром М. Нядзведзем — што «у 1964—1967 гадах вартасць пераказаных у карыстанне гаспадарчых, культурных і асветных аб'ектаў, якія былі будаваныя грамадскім чынам, перавышыла суму ў 41 мільёнаў 500 тысяч злотых».

### ЛІСТЫ САЛДАТАМ

Рабочыя калектывы прамысловых прадпрыемстваў Беласточчыны на спецыяльных мітынгах вітаюць польскіх салдат, якія часова знайшліся ў Чэхаславакіі. Прывітальныя лісты польскім салдатам выслалі рабочыя металаапрацоўчай фабрыкі ў Чорнай Беластоцкай, а таксама работніцы прадпрыемства ваўнянай прамысловасці ў Васількове. Павятовае праўленне Саюза вясковай моладзі ў Беластоку і актыў гэтай арганізацыі выступілі з прывітальным лістам для актыву Гурткоў вайсковай моладзі Войска Польскага ў ЧССР.

### ШАЎКОВЫ КАМБІНАТ

Пад горадам Ломжай распачалася пабудова вялікага тэкстыльнага камбіната, які будзе выпускаць шаўковыя тканіны. Прадбачваецца, што за два гады шаўковы камбінат распачне прадукцыю. Знойдзе ў ім працу звыш 3 тысяч рабочых, пераважна жанчын. Ужо зараз дырэкцыя будуючагася камбіната вядзе рэестрацыю ахвотных паступіць на працу і пасылае многіх на розныя прафесіянальныя курсы.

### ДУБРОЎСКАЯ МАЛАЧАРНЯ

Год таму назад за кошт 27 мільёнаў злотых пабудавана ў Дуброве вялікую малачарню. Працуе яна спраўна. Для прыкладу: план прадукцыі сыру прадбачваў выпусціць яго ў гэтым годзе на суму 235 тысяч зл. Рабочыя малачарні толькі за першае паўгоддзе выпусцілі ўжо тры разы столькі сыру. (вр)




**NIEDZIELA, 22 września**

9.25 Program dnia. 9.30 ,,Fałszywe oskarżenie'' — film (,,Przygody trzech muszkieterów''). 9.55 ,,Przypominamy, radzimy''. 10.05 PKF. 10.10 ,,Melodie na dzień dobry''. 10.35 Przerwa. 11.35 Program dnia. 11.40 Dziennik. 11.50 Koncert Zespołu Ludowego Wojska Polskiego. 12.30 ,,Wczoraj Tokio — jutro Meksyk'' cz. I (,,W starym kinie''). 13.30 ,,Przemiany''. 14.00 Dla dzieci: T. Kubiak — ,,Parasol wuja Filipa''. 14.30 ,,Wędrówki w czasie i przestrzeni'' (,,Piórkiem i węglem''). 14.50 ,,Bitwa o Anglię'' — film dok. pol. (,,Polacy na frontach II wojny światowej''). 15.15 ,,Zawsze w niedzielę'': Turniej Miast — Ostrowiec Świętokrzyski — Starachowice. 17.15 Niedzielny Teatr TV: A. Fredro — ,,Ostatnia wola'' — komedia. 18.15 ,,Ukochany kraj, umiłowany kraj'' — teleturniej. 18.45 ,,Szansa jest zawsze'' — rep. film. (,,Ludzie i zdarzenia''). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Rebeka'' — film fab. USA. 22.10 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 23 września**

15.40 Program dnia. 15.45 i 22.25 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka: ,,Wnioski z zasad dynamiki''. Wykład. dr M. Demiański (Gdańsk). 16.20 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka: ,,Ruch pod działaniem stałej siły''. Wykład dr M. Demiański. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Kino Ptyś''. 17.20 Dla młodych widzów: ,,Zrób to sam''. 17.35 ,,Medale i detale'' — program przedolimpijski. 17.55 ,,Bo — Bo'' — film Tele-Aru. 18.15 ,,Eureka''. 18.45 ,,Gorąca linia''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV. St. Fleszarowa-Muskat — ,,Gruszeczka — czyli wizyta obcej pani''. 21.05 ,,Kino Krótkich Filmów''. 21.35 ,,Złodzenia Willi Brandta'' — program dokumentalny. 22.05 Dziennik.

**WTOREK, 24 września**

9.20 ,,Cienie zapomnianych przodków'' — film fab. radz. 10.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski: Gabriela Zapolska ,,Moralność pani Dulskiej''. 11.25 Przerwa. 12.30 i 15.10 Przysposobienie Rolnicze: ,,Sady intensywne''. 13.05 Przerwa. 13.25 Dla szkół (kl. I lic.) Przysposobienie obronne: ,,Powszechny obowiązek obrony PRL''. 13.55 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.45 i 22.25 Politechnika TV I roku. Matematyka: ,,Wyznaczniki'' cz. I. Wykład. doc. dr R. Leitner (Wrocław). 16.20 i 23.00 Politechnika TV I roku. Matematyka: ,,Wyznaczniki'' cz. II. Wykład. doc. dr R. Leitner. 16.50 Dziennik. 17.00 Uroczyste pożegnanie olimpijczyków (transmisja). 17.40 Dla młodych widzów: ,,Fizyka na czterech kółkach''. 18.00 Dla młodych widzów: ,,Latający Holender wyrusza w rejs''. 18.30 ,,Nie tylko dla pań''. 18.55 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Cienie zapomnianych przodków'' — film fab. radz. 21.35 ,,Nad Odrą i Bałtykiem''. 22.05 Dziennik.

**SRODA, 25 września.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka: ,,Zjawiska świetlne''. 10.25 ,,Tunel'' — film kanad. (,,Dr Vojeck''). 11.15 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII). Wychowanie obywatelskie ,,Z wizytą w Sejmie PRL''. 12.25 Przerwa. 14.35 Program dnia. 14.40 Matematyka w szkole: ,,Odwzorowanie zbioru, odległość w zbiorze''. 15.15 Koncert estradowy z Gruzji (Tbilisi). 16.00 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka: ,,Wyrażenia algebraiczne'' cz. II. Wykład. doc. dr H. Łopuszańska (Wrocław). 16.35 i 23.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka: ,,Wyrażenia algebraiczne''. cz. III. Wykład. doc. dr H. Łopuszańska. 17.05 Dziennik. 17.15 Dla dzieci: ,,Nauczka'' — film TVP (,,Z przygodą na Ty''). 17.30 Dla dzieci: ,,Muzyczna wycieczka'' — progr. TV radz. 18.00 PKF. 18.10 ,,Telekram''. 18.35 Reportaż. 18.45 ,,Białe i czarne'' — film baletowy bułg. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Giełda Piosenki''. 20.35 ,,Swiatowid'' — magazyn spraw międzynarodowych. 21.05 ,,Tunel'' — film kanad. (,,Dr Vojeck''). 21.55 Studio 63. T. Boy-Żeleński ,,Obrachunki boyowskie''. Wybór, układ i reż. — A. Hanuszkiewicz. 22.40 Dziennik.

**CZWARTEK, 26 września**

10.00 ,,Alibi na wodzie'' — film fab. CSRS. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski: Guy de Maupassante — ,,Naszyjnik''. 12.25 Przerwa. 15.30 Program dnia. 15.45 i 22.30 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna: ,,Niezmienniki rzutowania równoległego, ukośnego i prostokątnego''. Wykład prof. F. Otto (Gdańsk). 16.20 i 23.05 Politechnika TV I roku. Chemia: ,,Drobiny''. Wykład doc. dr S. Pasynkiewicz (Katowice). 16.50 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Stop — biały beret'' — telekonkurs (Katowice i Poznań). 17.40 ,,Afryka jeszcze nie wyzwolona'' — film Tele-Aru (,,Z kamerą po świecie''). 17.55 ,,Ryzykanci'' — progr. Red. Ekonom. 18.25 Wybitni soliści ,,Warszawskiej Jesieni''. 18.55 ,,Przygoda na promie'' — film holenderski (,,Dzień pokoju''). 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Trybuna TV.'' 20.40 Teatr ,,Kobra'': B. Gordon — ,,Filiżanka czarnej kawy''. Reż. A. Kowalczyk. 21.50 ,,Refleksje''. 22.20 Dziennik.

**PIĄTEK, 27 września**

10.35 ,,Swobodny wiatr'' — film fab. radz. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Wychowanie plastyczne — ,,Jak patrzeć na malarstwo'' cz. I. 12.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.50 Politechnika TV I roku. Matematyka: ,,Macierze''. Wykład. doc. dr R. Leitner (Wrocław). 16.20 i 23.25 Politechnika TV I roku. Matematyka: ,,Układy równań liniowych'' cz. I. Wykład. doc. dr R. Leitner. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Miś z okienka''. 17.20 ,,Dom na Idźkowskiego'' (,,Spacery warszawskie''). 17.50 ,,Sylwetki X Muzy — Bette Davis. 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 ,,Człowiek a ziemia''. 19.00 ,,Trzy grosze'' — program satyryczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Czwarta zmiana''. 20.45 Teatr TV. H. Balzac — ,,Eugenia Grandet''. ok. 22.00 ,,Fakty i myśli''. 22.30 Dziennik.

**Sobota, 28 września**

9.35 ,,Tyle wierności na nic'' — film węg. 11.55 Dla szkół (kl. VII). ,,Królik i jego krewni''. 12.25 Przerwa. 16.00 Program dnia. 16.05 ,,Wychowanie fizyczne naszych dzieci''. 16.15 Program Tygodnia. 16.40 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: ,,Konkurs 5 milionów''. 17.55 ,,W przestworzach czyli ciekawe opowieści lotników''. 18.10 ,,Ex Silesia Lux'' — program o Śląskim Uniwersytecie. 18.40 ,,Piosenki z festiwalu w Splicie'' — film rozr. jug. 19.20 Dobranoc. 19.30 ,,Monitor''. 20.10 ,,Tele-Echo''. 20.50 ,,Podwieczorek z Kanon — Rytmem''. 21.35 Dziennik. 21.50 Wiadomości Sportowe. 22.00 ,,Tyle wierności na nic'' — film fab. węg.

**ШТО МОЖНА ДУМАЦЬ АБ СУЧАСНЫМ МАСТАЦТВЕ**

# IV БЕЛАВЕЖСКІ ПЛЕНЕР

IV Белавежскі мастацкі пленер закончыўся. Але перанясемся ў адзін ціхі вераснёвы цёплы дзень у Белавежу, калі пленер яшчэ быў, і раскажам аб ім крыху на аснове таго, што ўбачым...

Сучаснае мастацтва сталася «агрэсіўным»: шматлікія выстаўкі, дыскусіі, сустрэчы. Усё для таго, каб пераканаць людзей, што сучаснае мастацтва вельмі наватарскае і добрае. Самі сучасныя мастакі захоўваюцца так, як бы адкрывалі Амерыку першы раз, як бы іменна яны стваралі цэлую эпоху ў сусветным мастацтве. Мо яно і сапраўды так.

Глядзела я нядаўна аграмадную выстаўку карцін IV Фестываля польскага мастацтва ў Шчэціне. У рэнесансавых залах замка паморскіх князёў на трох паверхах сотні карцін. (6 карцін было ад беластоцкіх мастакоў, між іншым Лянгевіча, Валкавыцкага, Лабаноўскай, але прадстаўляліся яны неяк незаўважана).

Ясна, сярод соцен можна знайсці дзесяткі, якія ўздзейнічаюць на гледача, некаторыя проста ашаламляюць сваёй незвычайнасцю. Ашаламляюць не таму, што прыгожыя, а таму, што моцныя. Сучаснае мастацтва ідзе не ў кірунку, каб цешыць нашы вочы але ў кірунку, каб нас непакоіць і нерваваць. IV Фестываль польскага мастацтва дае яшчэ адно ўяўленне: карціны велізарных размераў. Карціны з нашых сцен пры тэтых палотнах выглядаюць, як хацінка пры дваццаціпавярховым будынку.



Спакойна тут і ціха, дасканалыя ўмовы для творчай працы.

Пяройдзем да Белавежскага пленера, які сваімі карэннямі таксама сядзіць у агульных тэндэнцыях сучаснага мастацтва.

36 мастакоў з'ехалася ў Белавежу з розных ваяводстваў, (найбольш з Гданьска, Варшавы і Кракава), 5 мастакоў з заграніцы: адна з Даніі, адна з Францыі, з самога Парыжа, двух літоўцаў, адзін індзеец. Кожны з іх, нашых і загранічных, па-свойму перажывае Белавежскую пушчу і па-свойму яе рысуе.

Расказвалі мне ў Белавежы, што першымі суддзямі паўстаючых у поце чала карцін з'яўляюцца жанчыны — прыбіральшчыцы белавежскіх начлежных дамоў. Яны адразу ацэньваюць: гэта добрае, бо падобнае да сябе, а тут не вядома што намазана.

Спрэчкі аб сучасным мастацтве, як бачым, ідуць усюды. Для Беласточчыны, наогул, адсталай у культурным жыцці ад іншых раёнаў краіны, Белавежскі пленер, гэта аліва на агонь гэтых «творчых» дыскусій. Вядома, аднак, што каб аб нечым гаварыць, трэба крыху на гэтую тэму ведаць, чытаць, бачыць, магчы параўнаць.

*

Жыццё мастакоў у Белавежы праходзіла па-рознаму. Былі дні спакойныя і менш спакойныя. Расказвалі мне аб вострых дыскусіях мастакоў з мясцовымі жыхарамі. Белавежанцы не аказаліся вернападданымі гасцей, прымалі аргументы варшавякаў, але мелі і свае.

Працавалі мастакі па-рознаму: адны ў сваіх пакоях, другія ў полі, іншыя забіраліся ў бліжэйшыя клуні і там пры паху сена лавілі свае думкі.

Надвячоркам збіраліся пры ПТТК у рабочых папэцканых кашулях. Вечарамі палілі часта кастры і пяклі крадзеную бульбу.

Размаўляць з іншаземцамі было нялёгка. Юрка Зінкоў, беластоцкі мастак, які ў Белавежы быў галоўным гаспадаром, размаўляў з дункай рысункам. Іншыя на мігі, яшчэ іншыя нейкім англійскім жаргонам, бо Маргарыта ведала з іншаземных моў толькі англійскую. З дробнай парыжанкай было лягчэй, таму што сярод удзельнікаў пленера адна варшаўская мастачка добра ведала французскую мову.



Датчанка Маргарыт Плеснер у пошуках новай тэмы.

Першы раз Белавежскі пленер прыняў мастакоў з заграніцы. Усе чакаюць з нецярплівасцю вынікаў іх працы.

Плён сёлеташняга пленера перавышае значна ранейшыя: 150 карцін у параўнанні да мінулага года, калі было 120. Запасы для будучай беластоцкай галерэі сучаснага мастацтва павялічацца на 36 карцін і будзе іх разам больш ста. З такім запасам ужо можна адкрываць беластоцкую галерэю, але няма яшчэ ў Беластоку памяшкання. Гэтыя звыж сто карцін будучай беластоцкай галерэі з'яўляюцца падарункамі мастакоў. Існуе такі звычай, што кожны з удзельнікаў кожнага пленера пакідае гаспадарам адну найлепшую сваю карціну.

Сярод удзельнікаў сёлеташняга пленера ёсць людзі маладыя, але ёсць і прафесары акадэмій мастацтва. Беластоцкія мастакі дагэтуль выпадалі цікава. Як цяпер будзе, яшчэ цяжка сказаць. Выстаўка ўсіх карцін IV Белавежскага пленера адбудзецца і ацэнка яшчэ перад намі.

**Вера Леўчук**
**Фота: Р. Сенька**

# ПАРТЫЯ і Я

Розныя дарогі вядуць людзей у рады партыі. Маюць яны ўсё ж такі адну супольную рысу: дарога ў партыю з'яўляецца дарогай штораз большай грамадскай актывізацыі, штораз большага заангажавання ў агульнаграмадскія праблемы.

Статыстыкі рэгіструюць, што ў беларускім асяроддзі асабліва многа людзей уступіла ў рады партыі ў апошнія месяцы. Сведчыць гэта толькі аб тым, што насельніцтва нашае хутка адклікаецца на патрэбу грамадскай актыўнасці, даючы такім чынам партыйным арганізацыям магчымасць пашырыць свае рады. Каб пазнаёміцца бліжэй з новаўступіўшымі ў рады партыі, звярнуўся я да Рыгора Анішчука з вёскі Курашава ў Гайнаўскім павеце, каб запытаць пра яго жыццёвы шлях.

## ДАРОГА Ў ПАРТЫЮ

Таварыш Рыгор Анішчук працуе гаёвым у лесе. Гаспадарку мае невялікую — усяго 4 гектары. Зямля ў гэтай ваколіцы слабая і гаспадарка гэтая недастатковая для ўтрымання сям'і. Таму Рыгор Анішчук з даўніх часоў займаўся не толькі апрацоўкай сваёй невялікай гаспадаркі, але працаваў на дзяржаўных работах з пачатку ў Службе аховы чыгункі (СОК), а потым, ад 1957 года гаёвым. Аб заангажаванні яго ў грамадскія справы сведчыць і тое, што з'яўляецца ён радным Грамадскай рады нарадовай у Палічнай.

— **Што вы лічыце,** — пытаю, — **найважнейшым грамадскім заданнем вашай вёскі?**

— Найважнейшыя справы, — адказвае Рыгор Анішчук, — у нашай вёсцы дзве: па-першае, робім усё, каб як найхутчэй увесці ў нашыя хаты электрычнае святло. Вядома, што без электрыфікацыі гаспадарак немагчымы тэхнічны прагрэс вёскі. А мы б хацелі нават на сваіх невялікіх гаспадарках гаспадарыць добра. Другой справай не менш важнай для жыхароў невялікай нашай і наогул убогай вёскі з'яўляецца праверка датагачаснай класіфікацыі зямлі. У нашым перакананні датагачасная класіфікацыя няправільная і крыўдная для нас — зусім слабыя глебы класіфікаваныя тут у IV і V класы. Зразумела, што такая сітуацыя адмоўна адбіваецца на вывязванні сялян са сваіх абавязкаў і спрыяе непатрэбным канфліктам паміж паасобнымі сялянамі і ўладамі.

**— А якія былі прычыны таго, што вырашылі вы ўступіць у рады партыі?**

— Уласціва павінен быў я ўступіць ужо даўно, — адказвае таварыш Анішчук. — Знеахвочвала мяне толькі агульная адсталасць нашай вёскі. Цяпер аднак дайшоў да вываду, што нават у такой невялікай ды адсталай вёсцы можна многа чаго зрабіць добрага. Ды яшчэ адно: дайшоў я да вываду, што перад адсталасцю ды рознымі іншымі цяжкасцямі нельга здавацца. Наадварот — трэба з усіх сіл імкнуцца як найхутчэй іх перамагчы.

Дзякую і жадаю Рыгору Анішчуку поспехаў у яго грамадскай дзейнасці.

**(п)**

# Да настаўнікаў беларускай мовы

Як жа часта чуем нараканні, што няма беларускіх кніжак у кнігарнях, а тым самым і ў школах. Бо, дзе ж іх набыць!?

Тым часам, неспадзявана даведваемся, што ў беластоцкай кнігарні Клуба міжнароднай кніжкі і друку (МПІК) знаходзіцца пэўная, даволі значная колькасць кніжак на беларускай мове, якраз прыстасаваных для школьных патрэб. Ляжаць тут ужо каля сямі год, недзе ад 1961 года. Вось яны:

Вечаслаў Адамчык **«Млечны шлях»** — 14 экз.

Янка Маўр **«Збор твораў»** (у двух тамах) — 54 камплекты.

Аркадзь Чарнышэвіч **«Праз зімы і вёсны»** — 32 экз.

Антанас Венцлава **«Дзень нараджэння»** — 9 экз.

Кнігарня МПІК — тэлефон 36-19 — гатова выслаць поштай заказаныя кніжкі. Варта карыстаць з гэтай аказіі — і дамовіцца затым на большы транспарт патрэбнай беларускай літаратуры. МПІК рэгулярна атрымоўвае каталогі тых беларускіх кніжак, якія паяўляюцца з друку. На жаль, як сцвярджае кіраўнік МПІК-у, ніхто з беларускіх школ не звярнуўся дагэтуль у справе выпіскі з Беларускай ССР кніжак, неабходных хаця бы па праграме. (ся)

# НОВЫ ПАДРУЧНІК

У кастрычніку пачнем друкаваць у «Зорцы» новы падручнік для 4-га класа.

Гэты зусім новы падручнік пад рэдакцыяй Лідзіі і Мікалая Гайдукоў ужо падрыхтаваны да друку, і школы атрымаюць яго ў будучым навучальным годзе. Сёлета ж «Зорка» будзе друкаваць яго асобныя фрагменты. У падручніку, побач з чытанкамі, будуць і кароткія матэрыялы з граматыкі.

# Помнік нашай культуры

Апошні летні сезон, як кожны ад часу ўтварэння Беларускага музея, быў спрыяльны для ўзбагачэння яго каштоўнымі экспанатамі.

Сёлета сабрана 220 экспанатаў і зараз у музеі, хаця ў неадпаведных умовах, знаходзіцца іх 750.

Па экспанаты выязджаюць працаўнікі ГП БГКТ, якія пры дапамозе актыву і вялікім зразуменні насельніцтва з кожнай паездкі прывозяць 40—60 прадметаў. Такім чынам наш музей штораз лепш і больш дасканала ілюструе матэрыяльную культуру паўднёва-ўсходняй Беласточчыны.

З кожнай паездкі прывозіцца больш чым 1/3 экспанатаў, якія дагэтуль не былі прадстаўлены ў музеі.

Варта таксама напомніць, што наш музей карыстаецца вялікай папулярнасцю турыстаў, якія наведваюць Белавежу. Адзіны працаўнік музея мгр Ул. Гацута мае многа працы.

Ён сам з'яўляецца правадніком экскурсій, мусіць рабіць адпаведныя азначэнні экспанатаў, а таксама неабходныя і магчымыя ва ўмовах музея кансерватарскія захады. У гэтым турыстычным сезоне музей наведала звыш 4700 экскурсантаў, у тым 350 з-за мяжы.

У памятнай кнізе музея наведвальнікі выказваюць сваё прызнанне і ўдзячнасць арганізатарам музея, а таксама дасканаламу правадніку — загадчыку музея Ул. Гацуце.

Наш музей павінен узбагачацца з кожным днём!

Таму заклікаем усіх членаў БГКТ, сімпатыкаў і ўсё беларускае насельніцтва да ўсё большай дапамогі ў зборы экспанатаў і ахвярнасці ў зборы грошай на фонд пабудовы Беларускага музея.

Музей выконвае важную выхаваўчую функцыю.

Наш Беларускі музей з'яўляецца трывалым помнікам культуры беларусаў, якія жывуць у Польшчы. Трэба шкадаваць толькі, што многія з сялян, з якімі даводзілася размаўляць, з жалем гавораць: — закапаў або спаліў барахло.

Выдаецца, што не так цяжка было б паведаміць Галоўнае Праўленне БГКТ па адрасу:

ZG BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11.

У сувязі з тым, што сярод так званага «барахла» ёсць рэчы, якія ў музеі будуць заўсёды напамінаць аб таленце нашых бацькоў і дзядоў, звяртаемся да ўсіх тых, хто будуецца або робіць парадкі, каб перш чым нішчыць, падумаў аб нашым музеі і памятаў, што амаль кожны прадмет, кожная прылада патрэбная нашаму музею.

**М. Лобач**

# К О Н К У Р С

Галоўнае Праўленне БГКТ абвяшчае літаратурны конкурс на сцэнічныя творы:

1. **П'еса (камедыя, драма, трагедыя).**
2. **Сцэнка (гумарыстычна-сатырычная).**
3. **Скетч.**

За найлепшыя працы будуць прызнаны:

**1-АЯ ЎЗНАГАРОДА — 1400 ЗЛ.**
**ІІ-АЯ ЎЗНАГАРОДА — 1100 ЗЛ.**
**ІІІ-АЯ ЎЗНАГАРОДА — 800 ЗЛ.**

Тэрмін надсылання прац у ГП БГКТ (Беласток, вул. Варшаўская 11) да 10 снежня 1968 г.

Конкурсныя працы павінны быць падпісаны псеўданімам, а сапраўднае прозвішча і адрас — далучаны ў заклееным канверце.

Вынікі конкурсу будуць надрукаваны ў «Ніве» ў канцы снежня г.г. За лепшыя неўзнагароджаныя работы прызнаюцца кніжныя прэміі.

Найлепшыя творы будуць апублікаваны.

**Галоўнае Праўленне БГКТ**

# Грамадскае заангажаванне

Вялікая колькасць грамадскіх чынаў, якія выконваліся на тэрыторыі Бельскага павета, была прысвечана асветным патрэбам. Ад 1964 па 1967 год выканана іх тут на суму 2.089 тысяч зл. Дапамога дзяржавы пры выкананні гэтых чынаў замкнулася, у адпаведным перыядзе, 353 тысячамі зл.

У 1964—68 гадах у рамах грамадскіх чынаў жыхары **Пілік, Парцава, Сельца, Вышак і Плюціч** пабудавалі памяшканні на практычна-тэхнічныя заняткі. Заўзятасць і самаадданасць грамадскай справе жыхараў **Дзянісак, Агароднікаў і Спешына** дазволіла ім на пабудову новых школьных будынкаў. Пачалі разбудову школьных памяшканняў жыхары **Кальніцы і Рыбалаў.**

(ах)

# ТУРБОТЫ і БЕСТУРБОТНАСЦЬ

(Працяг са стар. 1)

дзілі і не будуць ездзіць. Не гледзячы на гэта для салідарнасці з усёй грамадай прышлі яны, каб унесці свой удзел у грамадскую працу. Асаблівай актыўнасцю ў арганізацыі грамадскай працы ў гэтай вёсцы адзначаліся прэзас сельскагаспадарчага гуртка — Казімір Васілюк і солтыс — Зыгмунт Чэлюста.

Яшчэ большую ахвярнасць праявілі жыхары хутара Дамброва, адлеглай у 9 кіламетрах ад будаванай дарогі, якія таксама прышлі падчас гэтай грамадскай акцыі.

На гэтым фоне грамадскага ўздыму асабліва здзіўляе становішча тых, для каго ўласціва дарога будуецца — жыхараў вёскі Вайноўкі. Праз іх вёску ў будучыні будзе ездзіць гэтай дарогаю аўтобус, іх дзеці будуць хадзіць сюдою ў школу ў суседнюю вёску Старыну. Да працы аднак не выйшаў з пачатку з гэтай вёскі ніводзін чалавек. Толькі тады, калі старшыня грамадскай рады нарадовай разам з сакратаром пачалі хадзіць ад хаты да хаты ды сароміць гаспадароў, да працы павыходзіла крыху людзей. Здараліся прытым рэчы зусім непрыемныя, сваркі з агітатарамі да супольнай працы. Асабліва непрыемна паводзіў сябе Кастусь Рашчэнка, які са злосцю накінуўся на солтыса, талкуючы, што да працы ён не пойдзе, бо яму рука баліць. У вёсцы ўсе ведалі, аднак, што гэта няпраўда.

Падобны падыход да грамадскай справы маюць сяляне з вёскі Вялікая Апака. Маюць яны каля 200 метраў дрэннай дарогі. Улады згадзіліся нават дапамагчы ў яе рамонце, каб толькі мясцовыя сяляне абкапалі дарогу ровам. Замест сабрацца разам, як у іншых вёсках, ды зрабіць, што трэба, сяляне з Апакі пачалі хадзіць да ўлад з прэтэнзіямі, што не дбаюць пра іхнюю дарогу. Напісалі нават скаргу да «Хвалі 56». Падобна, калі ля гэтай вёскі нядаўна заламаўся масток, мясцовы солтыс замест сабраць суседзяў, ды пабудаваць новы — пайшоў у Прэзідыум грамадскай рады, каб данесці аб «катастрофе».

Падыход такі не з'яўляецца аднак у грамадзе Палічна дамінуючым. На 10 уваходзячых у склад грамады вёсак, толькі ў некалькіх знаходзім успамянутыя праявы абыякавасці. У большасці вёсак дамінуе творчая грамадская ініцыятыва. Да прыкладаў гэтай ініцыятывы, аб якіх пісалі мы вышэй, дадам яшчэ адзін. Нядаўна сяляне Палічнай пабудавалі грамадскім чынам на праходзячай ля вёскі чыгунцы паўстанак. Давезлі яны на пабудову перона 1200 кубічных метраў зямлі, выконваючы такім чынам працу на агульную суму 36.200 злотых.

**У. Паўлючук**



На беластоцкіх «Плянтах». Фота. В. Касакоўскі

# Кааперацыя Гайнаўшчыны

18 жніўня дэлегаты ПЗГС у Гайнаўцы на сваім штогоднім з'ездзе падвялі вынікі дзейнасці гмінных спулдзельняў і свайго ПЗГС за 1967 год, а таксама накрэслілі галоўныя напрамкі яго развіцця на бліжэйшыя гады.

Гайнаўскі павет з'яўляецца асабліва важным рэгіёнам Беласточчыны.

Існуюць тут вялікія прадпрыемствы дрэваапрацоўчай прамысловасці, будуецца фабрыка мэблі, стружкавых пліт, прадпрыемствы керамікі і адзення, усё гэта стварыла лепшыя ўмовы жыцця людзям усяго павета. А адначасова гэта павет з адстаючай тарварнай прадукцыяй, аднолькава як і збожжавай, так і жывёлагадоўчай, а таксама вырошчваннем прамысловых раслін.

Заданні для гмінных спулдзельняў і для ПЗГС з'яўляюцца разнароднымі і складанымі. Пабольшылася заработная плата шматлікіх сялянскіх сем'яў у выніку працы ў прамысловасці членаў іх сем'яў, змяняюцца патрабаванні, за якімі павінна паспяваць забеспячэнне. Развіваючаяся сельская гаспадарка — гэта для вясковага гандлю ўзрост заданняў у галіне скупу і яго мадэрнізацыі, неабходнасць даставы на час большай колькасці сродкаў абумоўліваючых хуткае развіццё расліннай і жывёлагадоўчай прадукцыі, будаўляных матэрыялаў, клопаты аб лепшае забеспячэнне складаў і магазінаў.

Аб вялікасці заданняў для вясковага гандлю ў павеце гавораць лічбы. І так, напрыклад, у мінулым годзе скуплена тут 3003 тон збожжа, 4528 тон жывёлы, 6245 тон бульбы, 1199 тон алеістых, 9 млн штук яек. Сяляне Гайнаўскага павета за прададзеныя сельскагаспадарчыя прадукты ў мінулым годзе атрымалі 120 млн зл, а за І-шае паўгоддзе 1968 года — 49 млн зл.

Даставілі ў гэтым часе сялянам усялякіх сродкаў да сельскагаспадарчай прадукцыі на суму звыш 18 млн зл, а рознічны продаж асягнуў 196 млн зл. Як на адзін год, гэта вельмі высокая сума. Агульныя абароты ў мінулым годзе асягнулі звыш 250 млн зл.

Гайнаўская спулдзельчасць забеспячэння і збыту з'яўляецца вялікім і пругкім гаспадарчым арганізмам. 142 магазіны і пункты дэталёвага продажу, 31 пункт скупу — у большасці абсталяваных па-сучаснаму, 15 прадукцыйных прадпрыемстваў, 7 сталовак і рэстаранаў, а таксама 26 усялякага тыпу пунктаў паслугі з'яўляюцца вялікім дасягненнем ПЗГС-у і 5-ці ГС-аў. Ёсць у гэтым дасягненні і 1 спулдзельня здароўя ў Старым Ляўкове, будаўнічая спулдзельня «Чын», склад сельскагаспадарчых машын, склады будаўляных матэрыялаў, мяшальня корму, расфасавальня сыпкіх артыкулаў, база аптовага гандлю, склады і па-сучаснаму абсталяваныя магазіны, пабудаваны пякарні і гасподы ў Белавежы і Нарве. У апошніх гадах вясковая спулдзельчасць у Гайнаўскім павеце пабудавала 100 новых і сучасных гандлёвых і паслуговых аб'ектаў, што ў значнай ступені палепшыла абслугу людзей.

Звыш 12-ці тысяч членаў спулдзельні карыстае не толькі з гандлёвых паслуг ГС і ПЗГС. Спулдзельні і ПЗГС арганізуюць многа культурных мерапрыемстваў, краязнаўчых экскурсій, спартыўных спартакіяд, дапамагаюць ЛьЗС-ам і вучнёўскім спулдзельням. З·6 прафесіянальных бібліятэк карыстае 226 чытачоў, у 7 клубах селяніна, якія вядуцца гміннымі спулдзельнямі, моладзь і старэйшыя знаходзяць культурны адпачынак, сустракаюцца з грамадскімі дзеячамі, пісьменнікамі, артыстамі, чытаюць прэсу, аглядаюць тэлебачанне, дыскутуюць. 5 пунктаў «Сучасная гаспадыня» і 4 спулдзельчай падрыхтоўкі, супрацоўніцтва са школамі і маладзёжнымі арганізацыямі — гэта яшчэ не поўнае пералічэнне грамадска-выхаваўчых ініцыятыў, якія прымала і добра выконвала спулдзельчасць забеспячэння і збыту ў Гайнаўскім павеце.

Сведчаць яны — побач з эканамічнымі вынікамі — аб моцнай гаспадарчай і грамадскай сувязі спалучаючай спулдзельчасць з людзьмі.

Намеснік старшыні надзорчай рады ПЗГС у Гайнаўцы
**Канстанцін Ляшчынскі**

# Дробка асветных спраў

(Працяг са стар. 1)

даваць якія-небудзь прыклады развязкі гэтай справы. Адно з'яўляецца ясным, што, як палепшыць працу СПР, мусяць выказацца настаўнікі і дзеячы. І ў гэтай галіне многа можна зрабіць.

Асвета Бельшчыны мае несумненна аграмадныя дасягненні ў апошніх чатырох гадах. Зараз, у пачатковых школах працуе 517 настаўнікаў г. зн. на 120 больш, чым у 1964 годзе. Пацяшаючым ёсць факт, што аж 51% з іх мае дадатковыя кваліфікацыі (СН). Адпаведна да кваліфікацыі настаўнікаў палепшылася ў апошніх чатырох гадах спраўнасць школ з 52,1% у 1965 г. да 58,1% у 1968, ці пераход у наступныя класы адпаведна з 90,8% да 92,3%.

Напэўна дыскусію выкліча справа памяшкальных умоў. На 434 школьныя памяшканні — 113 гэта нанятыя. Як відаць, патрэбы велізарныя. Трэба аднак памятаць, што ад 1964 па 1968 год пабудавана ў павеце 8 школ і 1 у пабудове, з гэтага ліку дзве сярэднія школы, а выдаткавана аж 13.976.000 злотых. Каб палепшыць умовы працы і забяспечыць будынкі, праведзена рамонт 22 школьных будынкаў за 3.335.000 зл. Несумненна, што гэта ў параўнанні з патрэбамі мала. Але мы не раз у сваіх публікацыях паказвалі, што ў Бельскім можна грамадскім чынам на многа больш будаваць. Як гэта рабіць і што трэба рабіць, каб больш будавалася школьных памяшканняў грамадскім чынам, гэта справа дзеячаў, улад і ўрэшце самога грамадства.

Мы закранулі толькі некалькі асветных спраў аднаго павета, спраў, якія ў пэўнай меры можна ўняць лікамі. Тэзісы з'езда партыі шырока гавораць аб ідэйна-палітычным выхаванні моладзі, аб выхаваўчай функцыі школ і іх значэнні. Да гэтых пытанняў будзем вяртацца ў іншых публікацыях.

**А. Лабановіч**

# Агнія БАРТО аб удзеле „НІВЫ"

Многія чытачы нашай «Нівы» памятаюць цыкл артыкулаў Віктара Рудчыка аб трагедыі сям'і Перавозкіных. Наш рэдакцыйны калега дапамог рускай маці адшукаць роднага сына, Валерыя, які ў вялікую вайну загубіўся на Беласточчыне. Гэту хвалюючую гісторыю паказала ў сваім творы «Найти человека» Агнія Барто, вядомая руская пісьменніца. Між іншым, цытуе яна карэспандэнцыю В. Рудчыка.

Твор апублікавана ў папулярным маскоўскім літаратурным месячніку «Знамя» № 8, які выходзіць больш стотысячным масавым тыражом.

Віктар Рудчык апрацоўвае зараз далейшую гісторыю Перавозкіных для публікацыі на старонках «Нівы».

(ся)

**НАД ПАРТЫЙНЫМІ ТЭЗІСАМІ**

# САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ ДЭМАКРАТЫЯ

Разважанні аб дэмакратыі — улюбёны канёк заходняй прапаганды, на якім выязджаюць з прычыны і без прычын. Бадай, не існуе ніводнай іншай сферы, у якой бы пер'і былі так адточаны, а прыёмы такія віртуозныя.

Стратэгія імперыялізму ў гэтым пытанні ідзе ў двух напрамках: безупыннага патоку рэкламы «заходняга ладу жыцця», нахабных спробах прадстаўлення ў якасці ідэала формаў буржуазнай дэмакратыі і намаганнях дыскрэдытацыі форм сацыялістычнай улады. А што ахвярай гэтых «ідэалаў» палі адзін і другі Кенедзі ці доктар Кінг? А што ў такой «ідэальна» дэмакратычнай дзяржаве як Заходняя Германія забаронена дзейнасць камуністычнай партыі? А што ў гэтых заходніх дэмакратыях пануе разбэшчаны расізм і прымяняюцца іншыя формы дыскрымінацыі? Аб гэтым аўтары і выканаўцы антыкамуністычнай стратэгіі маўчаць.

У гэтым шквальным абстрэле нашага ладу не цяжка вызначыць і аб'екты асаблівай канцэнтрацыі агню праціўніка. Ён перш за ўсё атакуе два асноўныя фундаменты нашага ладу: кіруючую ролю марксісцка-ленінскай партыі і рабоча-сялянскі характар улады.

Тэзісы на V з'езд ПАРП фармулююць асновы дзеяння сацыялістычнай дэмакратыі і паказваюць напрамкі барацьбы за яе ўдасканаленне.

«Сутнасць сацыялістычнай дэмакратыі заключаецца ў аб'яднанні грамадска-эканамічнай дэмакратыі з рэчаіснай уладай народа — гаворыцца ў тэзісах. Гэта грамадска-эканамічная дэмакратыя, якая ўсё паўней ажыццяўляецца — гістарычнае дасягненне польскіх працоўных мас. Асновай яе з'явілася аграмаджанне сродкаў вытворчасці, якое стварыла прадпасылкі абаперці існаванне кожнага грамадзяніна на працы. І толькі на працы. Магчымым стаўся справядлівы падзел нацыянальнага даходу, ліквідацыя беспрацоўя, шырокія правы і сацыяльная апека.

Разам з гэтымі выдатнымі сацыяльна-эканамічнымі здабычамі, новая ўлада прынясла Польшчы іншую эпахіяльную змену: канчаткова адсунула ад руля прадстаўнікоў грамадскіх сіл, класавы эгаізм якіх быў крыніцай тармажэння ў развіцці краіны і горка аплачанай, згубнай арыентацыі ў заграбнічнай палітыцы. Тэзісы гавораць аб уладзе народа, якая заключаецца ў тым, што ўсе ўстававадаўчыя і выканаўчыя ўлады выбіраюцца, што палітычныя і грамадскія арганізацыі працоўных дзейнічаюць неабмежавана і карыстаюцца шырокімі ўплывамі. Улада народа ажыццяўляецца двума шляхамі: з аднаго боку працоўныя непасрэдна ўваходзяць у склад органаў улады і дзейнічаюць у іх; з другога іх прадстаўніком на публічным форуме становяцца: ПАРП і саюзныя палітычныя партыі, прафсаюзы і грамадскія арганізацыі, а таксама — вельмі важны элемент сацыялістычнай дэмакратыі — рабочае і вясковае самакіраванне.

У свеце, які падзелены на дзве ладавыя сістэмы, сацыялістычная дэмакратыя з'яўляецца інструментам абароны сацыялізма і ўлады народа. «Неадлучнай рысай сацыялістычнай дэмакратыі — падкрэсліваюць тэзісы — з'яўляецца кіраўнічая роля марксісцка-ленінскай партыі ў сацыялістычнай дзяржаве». Роля гэта не заключаецца, зразумела, у гэтым, каб партыя мела заступаць органы дзяржавы. Яна адносна іх з'яўляецца палітычным кіраўніком. Ажыццяўляючы ідэалы свабоды, справядлівасці і роўнасці працоўных мас, сацыялістычная дэмакратыя абмяжоўвае магчымасці палітычнага дзеяння прыхільнікаў капіталізму — антысацыялістычных сіл. Таму — гавораць тэзісы — не пераняла ад папярэдняга ладу характэрнай яму выбарчай канкурэнцыі некалькіх палітычных партый. Сацыялістычная дэмакратыя не з'яўляецца мадэлем свабоднай гульні палітычных сіл, у якім навокал апазіцыйнай партыі непазбежна згуртаваліся б антысацыялістычныя сілы, узнікла б пагроза разгулу неўтаймаванай дэмагогіі, а таксама анархіі палітычнага і гаспадарчага жыцця.

Тэзісы падкрэсліваюць значэнне супольнага дзеяння ПАРП з ЗСЛ і Дэмакратычным стронніцтвам. Платформай гэтага супольнага дзеяння, а таксама актыўнага ўдзелу ўсіх грамадскіх арганізацый працоўных у фармаванні і ажыццяўленні палітыкі дзяржавы, з'яўляецца Фронт адзінства на-

# НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

### НЕЗВЫЧАЙНАЯ ТОЕСАМАСЦЬ

У адным з англійскіх ілюстраваных часопісаў надрукавана нататкy аб дзіўным падабенстве акалічнасцей смерці двух амерыканскіх прэзідэнтаў — Абрахама Лінкальна і Джона Кенедзі. Ітак, Лінкальн быў выбраны прэзідэнтам у 1860 годзе, а Кенедзі — у 1960 годзе. Абодва яны былі забіты ў пятніцу, у прысутнасці сваіх жонак. Абодвум выстралена ў галаву і ў карк. Пасля смерці Лінкальна наступны прэзідэнт называўся Джонсан, быў дэмакратам з Поўдня, нарадзіўся ў 1808 годзе; пасля смерці Кенедзі прэзідэнтам стаў чалавек, які таксама называецца Джонсан, нарадзіўся ў 1908 годзе, паходзіць таксама з Поўдня (Тэхас).

Успомнены англійскі часопіс лічыць Лі Освальда забойцам прэзідэнта і адсюль прыводзіць яшчэ адну аналогію: Освальд нарадзіўся ў 1939 годзе, а забойца Лінкальна, Бут, нарадзіўся ў 1839 годзе. Освальда і Бута застрэлена пакуль пачаўся суд. Сакратарка Лінкальна, якая мела прозвішча Кенедзі, прасіла прэзідэнта, каб не ішоў у тэатр — дзе быў ён забіты — а сакратарка прэзідэнта Кенедзі мела прозвішча Лінкальн і не раіла яму падарожжа ў Далас — дзе быў забіты.

Прозвішчы Лінкальна і Кенедзі налічваюць па 7 літар ( на англійскай мове), а Джонсанаў — таксама па 7 літар. (а-ся)

### КАНТРОЛЬ НАД ХУТКАСЦЮ

У Гватэмале не хапае рэгуліроўшчыкаў руху, таму там уведзен асобы від кантролю. Перад выездам з горада кожны вадзіцель атрымлівае талон, на якім абазначан час яго ад'езду. Пры ўездзе ў іншы горад шафёр абавязан спыніцца і паказаць рэгуліроўшчыку гэты талон. Калі ён праехаў шлях хутчэй, чым трэба было, з яго бярэцца штраф.

### ДЛЯ МУЖЧЫН

Каб мужчынскі касцюм быў у добрым стане, яго неабходна раз у тыдзень грунтоўна чысціць цвёрдай шчоткай.

Бляск на локцях, манжэтах і каленях лёгка ліквідуецца шчоткай, змочанай растворам з трох частак моцнага воцату і адной часткі вады.

Глянец, які можа з'явіцца ў час прасавання цёмнага касцюма, ліквідуецца пры дапамозе чаю або вады, у якой варыўся плюшч.

Каўнер пінжака трэба часта праціраць з унутранага боку разрэзанай бульбінай, а затым паслядоўна вільготнай і сухой анучкай. Так каўнер заўсёды будзе чыстым. Тлушчавыя плямы выводзяцца бензінам. Затым касцюм трэба павесіць на плечыкі або раскласці на стале і пачысціць шчоткай, змочанай адварам мыльнага кораня. На адзін касцюм неабходна 100 г карэнняў, зварaных у літры вады. Перш чым варыць, карэнні трэба на працягу гадзіны вымочваць у вадзе хатняй тэмпературы. Варыць каля гадзіны, затым пакінуць у вадзе дзве гадзіны. Да астыўшага адвару дадаць крыху нашатырнага спірту. Шчоткай, змочанай адварам, працерці касцюм. Мыльны корань пеніцца, не пакідаючы на касцюме слядоў. Чысціць трэба раўнамерна, не пакідаючы сухіх месц і ў той жа час так, каб не намокла падкладка. Брудную ваду зліць і касцюм яшчэ раз прачысціць чыстым адварам, але ўжо без нашатырнага спірту. Касцюм павесіць сохнуць у цяністае месца. Прасаваць праз сухую анучку.

Таксама мужчынскі касцюм вычысціць можна і вадой, у якой варылася фасоля.

### БЕЛАРУСКАЯ ССР У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ



Новы аўтасамазвал Магілёўскага аўтамабільнага завода прадназначаны для кар'ерных работ. Магутны рухавік забяспечвае пераходнасць машыны па бездарожжы. Яна мае добрую манеўранасць і вельмі малы радыус развароту.

**Тэхніка**

## Колькі электраэнергіі паглынаюць нашы тэлевізары

Работнікам дзяржаўнай энергасеткі Польшчы даводзіцца, акрамя сваіх службовых абавязкаў, цікавіцца праграмай тэлеперадач. Заўважана, што ў тыя дні, калі па тэлебачанні ідзе цікавая перадача, рэзка павялічваецца расходаванне электраэнергіі. Для сілкавання 2,5 мільёна тэлевізараў, зарэгістраваных у Польшчы, патрабуецца такая колькасць электраэнергіі, якую выпрацоўвае цяпер электрастанцыя магутнасцю 300 тысяч кілават. Больш за ўсё работы ў дыспетчараў тады, калі па тэлебачанні транслююцца спаборніцтвы на першынство Еўропы па боксу або ідуць такія шматсерыйныя тэлефільмы, як «Стаўка, большая за жыццё» або «Чатыры танкісты і сабака». Але горш за ўсё ім даводзіцца, калі ў адной праграме ёсць дзве цікавыя перадачы, а паміж імі такая, якой цікавяцца толькі нямногія. Тады прыходзіцца два разы, прычым за кароткія прамежкі часу, уключаць устаноўкі, што звязана з даволі вялікімі цяжкасцямі.

## Сасна на пальме

Сасну мы ўсе ведаем — гэта штодзённая наша спадарожніца. А пальму? На жаль, прыйшлося бачыць толькі ў кіно і на здымках. А вось жыхару горада Батумі М. Гінзбургу давялося пабачыць сасну і пальму разам, ды не толькі разам, але проста сасна вырасла на пальме. Калі не павeрыце, дык паглядзіце на здымак сасны-пальмы, які зрабіў гэты ж сам М. Гінзбург. Маскоўскі вучоны прафесар Валянцін Несцераў, пабачыўшы гэты здымак, паясніў гэтую незвычайную з'яву так: на ствале пальмы накапілася відавочна шмат пылу, які разам з вільготнасцю стварыў мікраглебу. Туды папала насенне з сасновай шышкі і з яго вырасла сасна. Расце яна ўжо на пальме сёмы год. (вр)



# НАВІНЫ ЭКРАНА

**«ЛОЗУНГ КОРН»** — Новы польскі фільм аб сучасных нашых контрразведчыках.

Змест.

Вайцех Янік афіцэр контрразведкі накіраваны да працы ў падваршаўскую электроўню. Гіне замардаваны. Яго калегі лічаць, што Янік знайшоў ключ да шпіёнскай сеткі «Корн». Туды ж пасылаюць новага чалавека капітана Наўрота, які пасля цяжкіх і небяспечных прыгод ловіць шпіёнаў.

**«НЯБАЧНЫ БАТАЛЬЁН»** — фільм югаслаўскі. Героямі з'яўляюцца дзеці, якія гуляюць у вайну. А паколькі вайна на свеце ідзе сапраўды і малое мястэчка акупуюць немцы, забава дзяцей з'яўляецца гульнёй у сапраўдную вайну. Дзеці з нябачанага батальёна ратуюць палоннага.

**«ЭЛЬЗА З АФРЫКАНСКАГА БУШУ»** — англійскі. Гісторыя, якая папярэдзіла паўстанне гэтага надзвычай цікавага прыгодніцкага фільма наступная: муж і жонка Адамсон з Англіі праводзілі ў Кеніі ў Афрыцы свае прыродазнаўчыя доследы. Адамсона аднойчы заатакавала львіца, якую вымушан быў застраліць. Засталося яе двое маленькіх «дзяцей». Выхоўвае іх пані Адамсон і да самічкі Эльзы вельмі прывязваецца. Любоў зрэшты двубаковая. Але прыходзіць час, і Эльзу трэба выправіць у джунглю, каб навучылася жыць у цяжкіх умовах на волі. Пасля нейкага часу да фармы Адамсонаў прыходзіць Эльза, каб паказаць сваім прыяцелям сваіх дзяцей і развітацца назаўсёды. (вл)

# ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ

### КУРАНЯ ПЕЧАНАЕ

Старанна ачышчанае і вымытае кураня пасаліць і пасыпаць чорным молатым перцам. Пакласці яго на бляху, папярэдне наліўшы на яе крыху вады і паклаўшы 100 г сметанковага масла. Кураня змазаць лімонным сокам, каб пры выпечцы ўтварылася хрусткая скарынка. Запякаць прыкладна паўгадзіны з аднаго і паўгадзіны з другога боку. Затым увесь час паліваць сокам, пакуль кураня не парумяніцца. Пакласці яго на блюда і даць астыць. Ачышчаныя ножкі кураняці, крыльцы і шыю зварыць так, каб мяса развaрылася, дадаўшы моркву, кавалачак сельдэрэю, пятрушку, соль і чорны перац затым працадзіць праз густую марлю. У халоднай вадзе на 2—3 гадзіны намачыць два лісточкі жалаціну. Раствораны жалацін змяшаць з прыгатаваным соусам. Тлушч з бляхі, у якім запякалася кураня, зняць, а тую частку, якая засталася, падагрэць, працадзіць і змяшаць з соусам.

Паставіць соус у халадзільнік, каб ён застыў. Атрыманае жэле нарэзаць дробнымі кубічкамі і гарніраваць ім кураня.

# Чвэрць стагоддзя назад

**Набліжаецца 25-тая гадавіна бітвы пад Леніна, дзе польская дывізія імя Касцюшкі прыняла баявое хрышчэнне, набліжаецца чвэрць стагоддзя таго дня, які адзначаем як свята нашага народнага войска. Гэтай знамянальнай гадавіне і прысвячаем успаміны Яна Анаціка, нашага земляка, які завірухай II-гай сусветнай вайны быў закінуты ў глыбіню Савецкага Саюза і, прайшоўшы ў Маскве спецыяльную падрыхтоўку, атрымаў баявое заданне, якое было непасрэдна звязана з Беласточчынай.**




У другой палавіне верасня 1943 года мяне выклікалі ў гасцініцу «Метропаль». Пастукаў я ў дзверы пададзенага мне нумара.

Скрыганаў у замку ключ. Дзверы адчыніў афіцэр у чыне палкоўніка.

— Калі ласка, уваходзьце, — сказаў.

Я ўвайшоў. Па сярэдзіне пакоя круглы стол, мяккія крэслы. На стале тоўстыя вялікія кнігі ў скураной абложцы. На іх выцicнуты гітлераўскі арол з гакенкройцам і нейкі надпіс на нямецкай мове.

За сталом сядзеў рослы генерал у белым кіцелі пры ўсіх ордэнах на грудзях (у часе вайны ордэны насіліся і ў будні) і двое пажылых элегантна адзетых у цывільнае мужчын.



Палкоўнік Ян Анацік цяпер.

— Сядай! — сказаў генерал. Сказаў гэта так, як бы ведаў мяне ад дзіцяці.

Сеў я на канапе, якая стаяла пад сцяной, бо чацвёртае крэсла, што стаяла ля стала, заняў палкоўнік, які адчыняў мне дзверы.

Генерал, не звяртаючы на мяне ўвагі, працягваў размову, якая была спынена маім уваходам.

— Лічу, што гэту справу праваліліі канчаткова. З гэтага, што тут мы прагледзелі, я не бачу ніякіх магчымасцей. Ніхто не падыходзіць.

— Таварыш генерал, я паспрабаваў бы праверыць гэтага палкоўніка, — умяшаўся адзін з цывільных, паказваючы на адну з кніг.

— Гэтыя ўсе дадзеныя ў актах нічога не варты, — адказаў рашуча генерал. — Бяздумна рызыкаваць людзьмі не можам... І не вяртаймася больш да гэтай справы. Трэба шукаць іншых рашэнняў.

— Аднак я, таварыш генерал, прапанаваў бы яшчэ сёння ноччу паслаць самалёт пад Мінск і прывезці гэтага сондэрфюрэра і яго дакументы, — уставіў далікатна палкоўнік. — Знялі яго не пакінуўшы слядоў.

— Так, прывезці трэба, безумоўна, але гэта далейшая справа і не тое, што нам трэба зараз. Ён жа не быў адзін: шафёр, двух з аховы, машына. Пазвоняць з Берліна яшчэ сёння, правераць: няма, не прыехалі. Пачнуць пошукі. Каб падставіць на яго месца нашага, трэба мінімум тры, чатыры дні. Так нельга. Зрэшты, ён ужо мае іншае прызначэнне. На яго месца трэба шукаць іншага. Усе глянулі на мяне.

Дык з гэтай дзіўнай справай, навокал якой ідзе гутарка, вяжацца ў нейкай меры мая скромная асоба? І ніхто мяне не пытаецца? Што гэта значыць?

— А цяпер з табой, Яне, — звярнуўся да мяне генерал.

У гэтым моманце палкоўнік устаў з крэсла і паказаў жэстам, каб я заняў яго месца. Сам сеў на маё.

— Мелі мы намер выслаць цябе ў Мінск у кампаніі з адным немцам. З табою справа простая, горш з немцам. Немец добры, мала — добры, дасканалы немец. Але горш маецца справа з дакументамі для яго. Перавярнулі мы тут дагары нагамі акты ўсіх афіцэраў, якія нам дасталіся з разбітых трох нямецкіх карпусоў, і ўсё гэта падла не падыходзіць. Колькі б гэта не каштавала, мы павінны ўгробіць ката Беларусі гаўляйтара Кубэ. Гэта не сакрэт, гавару аб гэтым адкрыта. І ён ведае, што мы хочам гэта зрабіць. Ахоўвае яго ў Мінску нямецкая разведка і контрразведка, але мы іх павінны абдурыць. Пакуль, як бачыш, ёсць ускладненні. У сувязі з гэтым табе даверана іншае заданне. Паляціш з групай савецкіх афіцэраў на сваю радзіму, на Беласточчыну. Ведаеш тамтэйшыя звычаі, мову і, самае важнае, у цябе там ёсць сябры, знаёмыя. Зна-

# ТРЫБУНА чытачоў

## У КРЫВЯЦІЧАХ

Нядаўна ў Крывяцічах адбыўся адкрыты партыйны сход прысвечаны абмеркаванню тэзісаў на V з'езд ПАРП. Удзельнічала ў ім многа моладзі і старэйшых людзей. Апрача перадз'ездаўскіх спраў, гаварылася таксама на сходзе і аб актуальным становішчы ў свеце. Грамадскасць вёскі Крывяцічы адабрыла становішча польскага ўрада ў справе Чэхаславакіі.

**В. Кірыдзюк**

## КАНФЕРЭНЦЫЯ КІРАЎНІКОЎ ШКОЛ

26 жніўня ў памяшканні малачарскага тэхнікума ў Беластоку адбылася канферэнцыя кіраўнікоў школ Беластоцкага, Лапскага, Сакольскага і Манецкага паветаў.

З дакладам выступіў куратар Эдвард Крынскі, у якім гаварылася аб дасягненнях і недахопах школьніцтва Беласточчыны. Між іншым, было сказана, што школьніцтва Беласточчыны займае адно з лепшых месц у краіне. Сведчыць гэта аб добрай падрыхтоўцы і сумленнай працы настаўнікаў Беласточчыны.

Пасля даклада была інфармацыя аб сітуацыі ў Чэхаславакіі. А затым адбылася дыскусія над дакладам.

Канферэнцыю вёў намеснік старшыні ВРН Л. Ахоцкі.

**Мікола Краўчук**
Патока

## НОВЫ ШКОЛЬНЫ ГОД

Урачыста пачаўся новы навучальны год у беларускім ліцэі ў Гайнаўцы. А дзевятай гадзіне вучні сабраліся ў гімнастычнай прасторнай зале. Мінутай цішыні ўшанавалі памяць загінуўшых воінаў у трагічным верасні 1939 года.

Затым дырэктар ліцэя мгр Аляксандр Іванюк выступіў з прывітальным словам. Горача і сардэчна вітаў вучняў старшых класаў, а перш за ўсё тых, хто сёння першы раз пераступіў парог новай школы і займае месца за партай. Усім пажадаў поспехаў у вучобе, а настаўнікам высокіх дасягненняў у працы, задавальнення з ліцэістаў, з іх поспехаў.

Успомніў аб гадах акупацыі і аб вызваленні Польшчы, аб мірнай працы і дасягненнях у апошнія гады ўсіх працоўных. У заключэнні сказаў, што здабыткам бацькоў з'яўляюцца сённяшнія ўмовы працы і навучання моладзі ў школьным узросце, мажлівасці развіцця свайго таленту ў вышэйшых школах. У гэтым годзе, як і ў мінулых гадах, адкрыла і закончыла ўрачыстасць новага школьнага года ганаровая варта, якая дэфіліравала са школьным сцягам пад гукі марша. У навучальным 1968/69 годзе навуку ў першых класах агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання пачне каля 100 школьнікаў з сёлеташняга выпуску.

**Янка Цялушэцкі**

---

чыць, як гэта гаворыцца прафесіянальнай мовай, у цябе там даверанымя кантакты. Атрымаеце адрасы дабавачныя. Трэба будзе адшукаць гэтых людзей і наладзіць з імі сувязь. Падрабязнасці задання перадасць табе твой непасрэдны камандзір. Такім чынам будзеш лепш выкарыстаны і з меншай рызыкай. Мундзір паліцэйскі пакінь, ён табе не будзе патрэбны. У Падольск выедзеш заўтра. Там у будынку дзіцячых ясляў змяшчаецца наша аперацыйная група. Звяжашся з палкоўнікам Васільевым. Неабходныя дакументы дастывіць на кватэру маёр Лунін. Ёсць пытанні?

— Вельмі дзякую, таварыш генерал, за давер, у мяне няма ніякіх пытанняў. Ці магу ісці?

—Дык шчасліва, да пабачэння пасля вяртання!

Паціснулі мне ўсе руку. Я выйшаў з пакоя.

Дзіўны чалавек. Называе мяне на ты, кладзе карты на стол, як бы я яму быў раўня. Хоць бы з гэтым Кубэ! Адкуль да мяне такі давер? А мо гэта нейкая пастка, або форма праверкі, ці падбадзёрванне? — думаў я, ідучы доўгім калідорам гасцініцы. — Дзякуй Богу, што не знашлі гэтых патрэбных дакументаў. Хай іх халера выдушыць усіх гэтых Кубэ, Кохаў, Франкаў. Гэта ж тое самае, што ўлезці кракадзілу ў пашчу, сесці яму на язык і калупаць у дзіравым зубе. Цікава, ці кракадзілам таксама баляць зубы, як і людзям? Цьфу! Якія дурныя думкі лезуць у галаву!

**Ян Анацік**



**Вёска Плянта ў Гайнаўскім павеце.**
**Фота Я. Цялушэцкі**

## З БЕЛЬСКАГА ЛІЦЭЯ

Новы навучальны год пачаўся ў Бельскім беларускім ліцэі як і ва ўсіх школах, 2 верасня. Пасля афіцыяльных урачыстасцей: прамовы па радыё, прамовы дырэктара ліцэя М. Гайдука і прадстаўніка бацькоўскага камітэта Федаровіча пачаліся нармальныя заняткі. Настаўнікі пазнаёмілі вучняў з чакаючымі іх заняткамі, правапісам і г.д. У гэтым годзе ў першыя класы ліцэя прынята 120 асоб і зроблена тры класы А, В, і С. Варта прыпомніць, што ў гэтым навучальным годзе пакінуць ліцэй апошнія выпускнікі старой праграмы VI класа.

**В. Леанюк**




**Дарагое Сэрцайка!**

Жыву на гаспадарцы. Год таму пазнаёмілася з хлопцам з другой вёскі. Наша знаёмства адбылося так: на забаве патанцавалі мы некалькі танцаў і сказалі сабе свае імёны і адкуль мы. Потым ён мяне пакінуў і пачаў танцаваць з маёй сяброўкай. Праз месяц у нас ізноў была забава, на якую ён прыехаў таксама. Гэтым разам танцаваў ён толькі са мной і хацеў мяне адвесці дамоў. Я, хаця ён мне і спадабаўся, не згадзілася ісці з ім і пайшла сама. Потым я даведалася, што ён сказаў на мяне, што я вельмі ганарыстая. Мне стала няёмка, мо я і дрэнна паступіла. Час ад часу ён прыязджае ў нашу вёску, але да мяне адносіцца толькі па-сяброўску, не так, як раней. Я пакахала яго і не ведаю, ці далей маўчаць, а прыйсці дамоў і паплакаць, каб ніхто не бачыў, ці сказаць яму аб гэтым пры сустрэчы. Парай, Сэрцайка, буду вельмі ўдзячна.

Аліна з Сакольшчыны

Дарагая Аліна!

Паводзіны твае мне спадабаліся. Часам і так бывае, што лепш прыйсці дамоў і паплакаць, каб ніхто не бачыў. Відаць, разумная ты дзяўчына і надалей такой будзь. Аднак, калі ты пакахала яго, а ён аб гэтым не ведае, дык можаш зрабіць так, каб адчуў, што ён табе не толькі сябар. Пры вашай сустрэчы ці на забаве, ці дзе-небудзь пастарайся аказаць яму больш увагі, чым іншым, вылучыць яго сярод іншых хлопцаў. Стварыць аказію, каб вы засталіся самі, тады і пры размове можаш крышку аказаць свае пачуцці, накіраваць размову на мінулае і т.п. Гэта дзяўчыне не цяжка, аднак трэба гэта зрабіць умела. Хлапец твой напэўна ўсё зразумее. Але не раю табе пры сустрэчы гаварыць аб гэтым адкрыта. Гэта карысці не прынясе. Як ён гэта ўсё ўспрыме, цяжка мне прадбачыць, аднак адно вядома, калі ты яму падабаешся — усё кончыцца добра.

Жадаю поспехаў
**Сэрцайка**

## У БЕЛАСТОЦКІМ ПАВЕЦЕ

Сяляне ў Беластоцкім павеце ў сярэднім дасягнулі па 18 ц. з га чатырох збожжавых культур, г.зн. большых ураджаяў, чымсьці ў мінулым годзе. Першы план кантрактацыі збожжа выканаў ГС у Міхалове. У сярэднім пасеяна па 110 кілаграмаў НПК на 1 га. Узрасла малочнасць кароў з 2000 літраў на 2150 л. Многа гаспадарсў прадало дзяржаве малака на суму 60 тысяч зл. Сельскагаспадарчыя гурткі карыстаюцца 350 трактарамі з камплектамі падвесных машын, 210 абмалотачнымі агрэгатамі і шматлікімі сельскагаспадарчымі машынамі, як снопавязалкамі, сеўнікамі. Пабудавана ў сувязі з пашырэннем трактарнага парка філіялаў ПОМ у Міхалове, Яжэве, Юхноўцу Дольным, Чаромусе. У г.г. на загаспадараванне зялёных угоддзяў прызначана 25 мільёнаў злотых.

Меліяравана тут усіх разам 15 тысяч га. З ФРЗ 5100 га загаспадаравалі: ПГР — 1251 га, спулдзельня прадукцыйная — 294 га. У грамадскіх чынах пры пабудове дарог, школьных памяшканняў у гонар V з'езда партыі выпрацавана 16 мільёнаў злотых.

У Чорнай Беластоцкай, Васількове і Тыкоціне за 40 млн зл пабудуецца паслугова-гандлёвы цэнтр.

У г.г. электрыфікавана 29 вёсак і хутароў. Водаправоды атрымалі: Міхалова, Новае Александрова, Крыніца, Лужаны, Зубры і Дабрынёўка. Заканчваецца пабудову іх у Дарожках і Тыкоціне. Агульныя грашовыя выдаткі на інвестыцыі склалі на працягу гэтага года 3817000 зл.

У 162 гуртках вясковых гаспадынь налічваецца 2855 членаў, у 180 сельскагаспадарчых гуртках — 5210 членаў.

## МЕЛІЯРАЦЫЯ

За 25 млн зл прызначаных на меліярацыю здрэнавана 298 га ворнай зямлі 1527 зялёных угоддзяў, будуць рэгуляваны рэкі і рыбныя ставы.

Поўнасцю загаспадараваных будзе яшчэ ў г.г. 1380 га лугоў і паш. Да найбольшых меліярацыйных аб'ектаў у павеце належаць Плоска Дольная (вартасць прац 3 млн зл), Плоска — 2,5 млн зл, Лuплянка Цек і Студзянкі.

Найбольш заавансаваныя працы ў аб'екце Плоска Дольная, дзе план рэалізавана амаль поўнасцю. Не малая ў гэтым заслуга кіраўніка аб'екта, абсальвента меліярацыйнага тэхнікума ў Беластоку Янкі Вароны, які аператыўна і добра арганізуе працу.

**Янка Цялушэцкі**

## МАКСІМ СКОРУК

Стары палітычны дзеяч, патрыёт, 42 гады працуе ў ГЗПД (Гайнаўскіх закладах драўлянай прамысловасці).

У 1926—29 гадах быў чорнарабочым у белавежскім надлясніцтве. У 1929 г. пераехаў у Гайнаўку, дзе пачаў працаваць у ГЗПД. У часы санацыі за ўдзел у забастоўцы Максім Скорук быў звольнены з працы. У час вайны спаткаў яго лёс гітлераўскага вязня. У 1944 годзе Скорук вяртаецца да працы ў ГЗПД на свой участак. Працуе брыгадзірам, умее кіраваць людзьмі.

Сёння М. Скорук з'яўляецца сакратаром ПОП. Працуе пры дэталю (разладоўванні апалу). Народная ўлада не забыла заслуг дзеяча Скорука. Максім Скорук за поспехі ў працы і грамадскіх чынах узнагароджаны дзяржаўнай адзнакай — Крыжам Кавалерскім, Сярэбранай і Залатой Адзнакай прафсаюзаў драўлянай прамысловасці.

**Янка Цялушэцкі**

## АХВЯРАВАЛЬНІКІ НА МУЗЕЙ

Безупынна павялічваецца колькасць ахвяравальнікаў на пабудову беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы. Найбольшую колькасць ахвяравальнікаў мае Гайнаўскі павет. У апошнім часе ўплаты паступілі ад рабочых і служачых:

— СОК (Служба аховы чыгункі) у Семяноўцы — 206 зл.
— Пачатковай школы ў Нараўцы — 154 зл.
— ГС у Гайнаўцы — 120 зл.
— ПК ПАРП у Гайнаўцы — 105 зл.
— Аддзела «Рух» у Гайнаўцы — 175 зл.

(ак)



**На рэчцы Белая каля Бельска.**
Фота: П. Зінкевіч
Бельск

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Дубіны**

,,Mętna woda'' (węgierski), ,,Piąty jeździec Apokalipsy'' (czeski), 28—29.

**Нараўка**

,,Gdy miłość przemija'' (jugosł.), ,,Stajnia na Salwatorze'' (polski), 25—29.

**Нарва**

,,Męski piknik'' (jugosł.), ,,Sami swoi'' (polski), 25—29.

**Чыжы**

,,Bariera'' (polski), ,,W martwej pętli'' (radz.), 25—29.

**Дубічы Царкоўныя**

,,Bumerang'' (polski), ,,Galia'' (franc.), 25—29.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

,,10 małych Indian'' (angl.), ,,Na frontach wojny domowej'' (radz.), 25—29.

**Райск**

,,Dywersanci'' (jugosł.), ,,Pociąg pod specjalnym nadzorem'' (czeski), 25—29.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

,,Spacer po linie'' (angl.), ,,Faraon'' (polski), 24—27.

**Міхалова**

,,Bokser i śmierć'' (czeski), 24—25. ,,Ojciec żołnierza'' (radz.), 26—27. ,,Tabliczka mnożenia'' (polski), 28—29.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

,,Ucieczka z Paryża'' (franc.), 24—25. ,,Otello z prowincji'' (węgierski), 26—27. ,,Panowie z kompleksami'' (włoski), 28—29.

**Шудзялава**

,,Nikt nie chciał umierać'' (radz.), ,,Przed wojną'' (jugosł.), 25—29.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

,,Deszcz padał na szczęście'' (czeski), ,,Smog'' (włoski), 25—29.

**Новы Двор**

,,10 małych Indian'' (angl.), ,,Ja twój syn'' (węgierski), 28—29.

**Ліпск**

,,Czterej pancerni i pies'' (pol.), 28—29.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 5714

